

# НАВІНЫ З РОДНАЕ СЬВЯТЫНІ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

+ ВЕСТКІ З ЖЫЦЬЦЯ ПАРАХВІІ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА +
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN, N.Y. 11217-1702

ГОД 7 | ВЯЛІКДЗЕНЬ 2007 г. | № 1/12

## ЗЬ ВЯЛІКАДНЯМ ВІТАНЬНЕ ВАМ!

Із Хрыстовым з ўмерця
Устаньнем
Найшчырэйшае вітаньне
Царквы Рада і Сястрыцтва
Парахвянам шлюць ўсім
чыста:
Тым, царквы што ня
мінаюць
Й што нядзелькі ў ёй
бываюць,
Ды ня скупяць на ахвяру
Колькі змогуць даць
даляраў,
А й гатовыя з ахвотай
Да ўсялякае работы,
Што яе ў царкве ўсьцяж
густа,
На наймы-ж у касе пуста
Й хоць з тае ў скарбцы
пустэчы
Ў нас ня ўсе як трэба рэчы,
Памагцы свайго ня гудзяць,
А ўсім кажуць, што лепш
будзе
Ды на чуда не чакаюць,
А што могуць папраўляюць
Й знак іхнай працы ўжо
відзён
Усім нам чыста з кожным
днём:
Бо у сені нат зайшоўшы
Не паверыш сваім вочам,
Так там чыста й ясна стала,
Як ніколі ня бывала.
А у залі, проста дзіва,
Так там ясна й зіхатліва
Ад падлогі аж да столі,
А ўпярэдзе яшчэ болей
Будзе дзіва і з таго йшчэ,
Сьцены стануць як ў пад-
мосьці
І ў пакоях дзе падзецца
Грамадзе знайдзецца
мейсца.
Ды царкву як ухарошым,
Каб нятолькі люба вочам
Ў ёй было, а й душы там
Кліч чуцён быў да малітваў.

ХРЫСТОС УСТАЎШЫ З УМЕРЛЫХ
СЬМЕРЦЯЮ СЬМЕРЦЬ ЗЬВЯРНУЎ
І ТЫМ, ШТО Ў МАГІЛАХ
ЖЫЦЬЦЁ ЁН ВЯРНУЎ!



ХРЫСТОС ВАСКРОС!

ІЗЬ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА
ЎСТАНЬНЯ З УМЕРЛЫХ
ВІТАЕМ ДУХАВЕНСТВА
Й ВЕРНІКАЎ БАПЦ
ДЫ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА
Ў КРАІ Й ЗАМЕЖЖЫ!

УСІМ ЖАДАЕМ СЬВЯТНЯЕ
РАДАСЬЦІ Й ПЕРАМОГІ
НАД ПЕКЛАВЫМІ СІЛАМІ,
ШТО ЙМКНУЦЬ УМЯРЦЬВІЦЬ
НАШ НАРОД!

Хто да гэтага спрычынен,
Таго ў сьвята мы абдымем
І паводль здаўна звычаю
Слоўмі "Ўстаў Хрыстос"
зьвітаем.
А ў царкве тых, што
бываюць,
"Хрыстос Ўскрос" як ў ёй
сьпяваюць
Й тых, што ў цэркву зрэдзь
патрапяць,
Сьвечкі ўжо як ў ёй
пагасяць
І на зборную талерку
Класьць ня трэ з даляр
паперку,
А зайшоўшы зразу ў залю
Час ў размове можна
збавіць
Ды ззаганіць пры тым
сьмела
Дзіркі ўсе знайшоўшы ў
цэлым
Й навучыць, ці хоць параіць
Ў неспадоб што як паправіць
Ня прыклаўшы рук самому,
А праз ўпёк каму другому,
Што языкам не ваюе,
А бяз спыну ў спор працуе.
Мы ўсё-ж й крытыкаў вітаем
Й за стол сьвятні запрашаем,
Разам й ўпоравень з усімі,
Што шчыруюць ў нас
ў сьвятыні.
Сядзьма ўпобач, як браты ўсе
Вялікодну сьпяём песьню,
Пагамонім зь землякамі,
Што ў замежжы бы сям'я нам.
Ўспомнім Край наш гожы
й любы,
Й збавіць прырачэм ад згубы
Ды ўсе станема да працы,
Й часу ў спрэчках больш ня
страцім,
А з Хрыстовым Уваскрэсьсем
Ў творчай згодзе зажывем ўсе -
Гэта й мэта Вам вітаньня
Із Хрыстовым з ўмерця
Устаньнем!

**ЗРАБЕЦЕ ВЯЛІКОДНЫ ПАДАРАК
РОДНАЙ ЦАРКВЕ
АХВЯРАЙ НА ЕЙНАЕ ЎТРЫМАНЬНЕ!**

**ПРЫХОДЗЬЦЕ НА ВЯЛІКОДНЫЯ
АДПРАВЫ й ПАРАХВІЯЛЬНЫЯ РАЗГОВІНЫ
ўначы зь 7-га на 8-мае КРАСАВІКА 2007 г.**

# БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
## КАТЭДРАЛЬНЫ САБОР СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА
### Ў БРУКЛІНЕ, Н.Ё.
## ПАРАХВІЯЛЬНАЯ РАДА

Дарагія Вернікі БАПЦ і Ўсе Суродзічы Беларусы!

Ужо блізка два дзясяткі год, як разваліласа бязбожная савецкая імпэрыя ды амаль усе паняволеныя ёю, але непадпарадкаваныя Маскоўскаму Патрыярхату народы вярнулі сабе іхную дзяржаўную незалежнасьць.

Адно бальшыня насельніцтва Беларусі й Украіны, далей засталася ў путах адвечнае прылады маскоўскага імпэрыялізму - Расейскае Праваслаўнае Царквы.

Украінцы, усё-ж, здолелі ўзнавіць, хоць і падзеленыя, але асобныя ад Масквы ды прасякнутыя патрыятычным духам Праваслаўныя Цэрквы, што ахапіўшы значную частку праваслаўных вернікаў стварылі магчымасьць "аранжавае рэвалюцыі".

У нас, на Беларусі, на бяду, у той час, не знайшлося дзеячаў, каб узнавіць апрычоную ад Масквы краёвую Праваслаўную Царкву й, ахапіўшы сеткай ейных парахвіяў патрыятычную частку народу, стварыць базу для змаганьня за незалежнасьць краю.

У выніку гэтае непрадбачлівасьці нашай Бацькаўшчынай авалодала наважаная на неадкладнкую русыфікацыю народу дыктатура непакайных саветчыкаў, верную падпору ўлады якіх забясьпечвае маскоўскі духовы ОМОН - Беларускі Экзархат Маскоўскага Патрыярхату.

Аднак гэтая цяперашняя нашая нацыянальная трагэдыя - не канцавы й ня безнадзейны вынік змаганьня за дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны ды йснаваньне й свабоду Беларускага народу.

Апрача бо незалежніцкіх палітычных, грамадзкіх і культурных сілаў у краі і вонкі яго, у замежжы існуе далей прадбачліва ўзноўленая пасьляваеннай беларускай эміграцыяй Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, пры якой ужо больш як поўстагодзьдзя гуртуюцца сілы змагарнае за волю Бацькаўшчыны беларускае дыяспары.

Дзякуючы гэтай духовай і матэрыяльнай незалежніцкай базе, невялікая пасьляваенная беларуская эміграцыя не патанула ў чужынскім насельніцтве замежжа, як гэта сталася з нашай ранейшай сялянскай эміграцыяй, а пазнаёміла сьвет зь Беларускай Справай ды паставіла гэтую Справу ў рад актуальных міжнародных праблемаў і дачыненьняў.

Сёньня, азіраючыся праз больш як поўстагодзьдзя назад, можна з пэўнасьцяй сьцьвердзіць, што без парахвіяў БАПЦ і іхных будынкаў у замежжы, дзейнасьць беларускае пасьляваеннае эміграцыі была-б шмат слабейшая, бо ў прыватных кватэрах замала мейсца на грамадзкія зборы, або палітычныя акцыі.

Дзякуючы ейнаму знаходжаньню ў найважнейшым месьце сьвету й сярод найбольшага пасяленьня пасьляваеннае эміграцыі, найбольш дапамагла ў пасьпяховай эміграцыйнай дзейнасьці парахвія нашае галоўнае сьвятыні - Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне зь ейным царкоўным будынкам й грамадзкай заляй у ім.

Нажаль, з прычыны нашае панадлівасьці занядбоўваць, або й раськідаць зь вялікімі напругамі здабытыя асягненьні, ды з адыходам з гэтага сьвету амаль усяе пасьляваеннае эміграцыі, будынак гэтага найважнейшага беларускага эміграцыйнага асяродку пасьля колькіх дзесяцігодзьдзяў зь нястачы грошай на палепшаньні быў дайшоўшы да нягоднага сучасным патрабаваньням стану.

З Божае волі, аднак, у Брукліне ды ваколіцы Нью Ёрку нядаўна зьявілася хваля новае беларускае эміграцыі, немалая частка якое, хоць небагатая на грошы, але шчодрая на ахвярную працу, далучылася да парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага й удзелам у штотыднёвай талацэ аднавіла вялікую частку царкоўнага будынку да непазнальнага ад папярэдняга стану й выгляду.

У будынку бо ўжо ўсталяванае газавае ацяпленьне й цэнтральнае ахалоджваньне, даходзіць да канца ўладжаньне й выдатнае ўпрыгожаньне залі з кухняй, канцылярыяй, туалетамі й калідорам, ды сходамі у царкву

У падмосьці (падвале) рыхтуюцца памешканьні на архіў беларускае эміграцыі й, магчыма, невялікі беларускі музэй, або на іншае грамадзкае ўладжаньне.

Усьлед, да 50-х угодкаў асьвячэньня сьвятыні ў лістападзе г.г., на неадкладнай чарзе заканчэньне аднаўленьня й упрыгожаньня ўсярэдзьдзя самога Сабору, каб і нашая царква стала прывабнай людзям ды дагоднай Богу.

Шмат у гэтай справе ўзноў будзе зроблена рукамі нашых ахвярных парахвіянаў і прыхільнікаў, але частка патрэбных палепшаньняў патрабуе працы адумыслоўцаў ды няма-ла выдаткаў на адпаведныя матэрыялы.

Дзеля гэтага Парахвіяльная Рада, яшчэ раз дзякуючы за ўжо атрыманыя ахвяры, узноў зьвяртаецца да ўсіх Вас з гарачай просьбай памагчы Вашымі, як магчыма шчодрымі ахвярамі, скончыць аднаўленьне будынку Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне так, каб мы ганарыліся прыгаствам гэтага неабходнага для дзейнасьці нашае змагарнае за незалежнасьць Бацькаўшчыны беларускае эміграцыі асяродку, ды ў ім дзейнасьць гэтае эміграцыі адбывалася-б у спрыяльных на спор і Божае прыяньне абставінах.

Чэкі просім выпісваць на St. Cyril's of Turau Cathedral і слаць на адрас 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217-1702.

Няхай-жа Бог узнагародзіць Вас у шмат раз за Ваш шчодры водгук на нашую просьбу!

Парахвіяльная Рада
Катэдральнага Сабору
Сьв. Кірылы Тураўскага
ў Брукліне, Н.Ё.

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

Пасьля багатага пачастунку й вясёлага гуляньня на Перадпіліпаўкавых Аладках, што наша парахвія ладзіла ў нядзелю, 26-га лістапада мінулага году, настаў перадкалядні пост, падчас якога Амэрыкай авалодвае перадсьвятняя гарачка закупу падаркаў і далёкіх яшчэ да сьвята калядніх застольляў.

Не абмінуў гэты настрой і нашае парахвіі, бо ўжо ў першым тыдні Піліпаўкі мяйсцовая грамадзкая амэрыканская арганізацыя, зь якою мы супрацоўнічаем, паставіла ў царкоўным гародчыку на рагу вуліцы ялінку, на якой пры немалым зборы знавакольных дзяцей і іхных бацькоў, ды суседаў, увечары ўрачыста запалілі элекрычныя лямпачкі, а пасьля ў парахвіяльнай залі далі тым-жа дзецям смачны пачастунак і зладзілі для іх гульні.



Зьлева направа: а. Прат. Пятро Згоба, сп-ня Івонка Сурвіла, сп. Расьціслаў Гарошка.

Нашая парахвія, пэўна-ж, не гуляла, а рыхтавалася да Сьвята Хрыстовага Нараджэтва й на першым мейсцы у гэтай падрыхтоўцы было найцяжэйшае заданьне - сьпеўкі царкоўнага хору, каб успомніць сьвятнія сьпевы.

Цяжкасьць-жа гэтага заданьня ў тым, што далучыцца да хору не ўдаецца ўпрасіць амаль нікога з нашае моладзі ды нават сталейшых новых эмігрантаў і ў ім далей ужо дзесяцігодзьдзямі сьпяваюць тыя самыя людзі, якім пара была-б спакойна памаліцца й пачуць сьпевы малодшага пакаленьня.



Пасьля асьвячэньня ахвяраваных сп-вам Сагановічамі сьвятарскіх багаслужбовых адзеньняў. Зьлева направа: сп. Анатоль Колбун у ахвяраваным сьціхары, а. прат. Пятро Згоба, сп-ва Ліна й Мікалай Сагановічы, перад мі на стальцы ахвяраваныя адзеньні.

У эміграцыйным жыцьці, людзей лучаць, аднак, нятолькі малітвы й грамадзкія, ці палітычная справы, але й у вельмі значной меры таварыскае жыцьцё, г. зн. нагоды пагуляць із прыяцелямі ды знаёмымі на застольлях і танцах - бяз гэтага ня бывае арганізацыйнае дзейнасьці.

З гэткіх нагодаў сустрэча Новага Году паводле новага стылю цяпер, як у нас на Беларусі гэтак і ў Амэрыцы бадай што найважнейшая - ня ладзіць яе ў сваім асяродзьдзі тое самае, што выпраўляць сваіх людзей да чужынцаў.

З увагі на гэта Парахвіяльная Рада штогод ідзе насустрач Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню й дае ў наймы па таннай цане парахвіяльную залю на вышэй успомненую ўрачыстасьць.

Сёлета сустрэча Новага Году, на якой грала аркестра сям'і Казакоў, была асабліва людная і ўдалай, да чаго спрычыняўся нятолькі багаты пачастунак, але й выдатны выгляд нашае, ужо амаль цалком адноўленае залі.

Тыдзень пасьля новагодняе сустрэчы, як ведама, быў ужо конадзень, а назаўтра й самое Сьвята Хрыстовага Нарадзтва, і нашыя ахвярныя парахвіяне сумленна прыбіралі ды ўхарошвалі нашую царкву, а таксама й залю да сьвяткаваньня.

У гэтай перадсьвятняй падрыхтоўцы ўзялі удзел сп-ня Таццяна Красоўская й сп-ва Ліна ды Мікалай Сагановічы, гэтым апошнім належыць падзяка нятолькі за працу, але й ахвяраваньне немалое колькасьці адумысловых калядніх кветак (poinsetias) ды хараша ўвабранай ялінкі, што вельмі ўпрыгожылі царкву.

Вячорнюю адправу ў Сьвяты Вечар а. Пятро адправіў пры большым як калі зборы маленьнікаў, пасьля чаго большасьць гэтых маленьнікаў засталася на смачна прыгатаваную Сяструнствам куцьцю, падчас якое, як звычайна ў нас, грамадою сьпявалі калядкі й найболш упадабаныя беларускія песьні.

На першы дзень Каляд раніцай, у нядзелю, 7-га студзеня г.г., а. Пятро узноў урачыста адправіў Сьв. Літургію, пасьля якое ў парахвіяльнай залі пачалося калядняе застольле з прыгатаваным Сястрынсвам шчодрым пачастункам.

Прыемнай неспадзеўкай на застольлі было зьяўленьне Дзеда Каляды, што пры зьзяльлай каляровымі лямпачкамі ялінцы раздаў шмат каму з малых і сталых застольнікаў сьвятнія падаркі.

Трэба яшчэ адзначыць, што дзякуючы грашовай дапамозе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й стараньням сп. Сяргея Капыткі прыдбанае гукавое ўладжаньне грала падчас застольля нягорш за жывых музыкаў запісаныя сп. Віталём Пузачом зь сеціва беларускія песьні й мэлёдыі.

На Вадохрышча, 19-га студзеня, паколькі гэта быў працоўны дзень, у нас Сьв. Літургіі ня было, а Вялікае Асьвячэньне Вады а. Пятро адправіў увечары.

Наступнай, годнай увагі падзеяй у нашай грамадзе была сустрэча Старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, сп-ні Івонкі Сурвіла зь беларускай моладзяй і старэйшым грамадзтвам, што адбылася ў нядзелю, 4-га лютага, пасьля Сьв. Літургіі.

Сп-ня Сурвіла, хоць і неправаслаўная, дала, аднак, прыклад пабожнасьці шмат якім нашым парахвіянам і праваслаўным беларусам ейнай прысутнасьцяй на ўсёй Сьв. Літургіі.

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

Высака цэнячы заслугі сп-ні Сурвіла ў вызвольным змаганьні Беларускага народу нашая парахвія падарыла ёй іконку Жыраўскае Божае Маці з пажаданьнем апекі й дапамогі нашае Небавае Апякункі ў ейнай дзейнасьці й жыцьці.

З гэтае нагоды ў канцы Божае Службы а. Пятро й старшыня Парахвіяльнае Рады, сп. Расьціслаў Гарошка, прывіталі годную чэсьці госьцю цёплымі словамі й выказалі ёй найлепшыя пажаданьні, а хор прапяяў "Дай, Божа, шмат год!" (гл. здымак на 3-й бачыне).

Пасьля адправы ў парахвіяльнай залі адбылася вышэй успомненая сустрэча сп-ні Сурвіла зь беларускай моладзяй і грамадзтвам, апісаньне якое зьмешчанае ў газэце "Беларус" за сакавік г.г.

Наступнай таварыскай ўрачыстасьцяй у нашай парахвіі былі запускі перад Вялікім Постам, што мы ладзім тыдзень раней у скаромную нядзелю, каб ня перашкодзіць у такім самым застольлі ў сястрынной нам парахвіі ў Гайлэнд Парку, НДж., што робіць гэтую бяседу ў запускавую нядзелю.

Як і заўсёды раней, нашае Сястрынства і гэтым разам згатавала смачны пачастунак з багатым выбарам страваў у тым ліку і бліноў, а гукавое ўладжаньне выдатна грала беларускія песьні й музыку да танцаў.



Адноўленая парахвіяльная заля перад сьвяткаваньнем 89-х угодкаў 25-га Сакавіка 1918-га году.



Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка. На сцэне вядзьцы: сп. Мікалай Цімашэнка й сп-чна Гражына Залеўская.

Танцы, нажаль, не патрывалі доўга, бо ў залі мусеў пачацца яшчэ й заказаны наперад сход Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Сьледам, у панядзелак, 19-га лютага, у парахвіяльнай залі адбылася яшчэ сустрэча нашай мяйсцовай беларускай грамады йз заступнікам старшыні БНФ. сп. Алесям Міхалевічам, што варочаючыся з наведу ў Вашынгтон на коратка затрымаўся ў Нью Ёрку.

Праз сход БАЗА й сустрэчу дакладней можна даведацца з сакавіковага нумару газэты "Беларус".

У нядзелю, 25-га лютатага, зь ініцыятывы Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы ў парахвіяльнай залі адбылася інфармацыйная гутарка пастыра нашае парахвіі, а. прат. Пятра Згобы з мадодшымі й сталейшымі цяперашнімі ды, спадзяемся, у недалёкай будучыні й новымі парахвіянамі.

Гутарку пачаў сп. Барыс Данілюк, коратка расказаўшы праз гісторыю Праваслаўнае Царквы ў Беларусі й ейнае імкненьне да самастойнасьці з даўніх часоў, ды абвешчаньне аўтакефаліі ў мінулым стагодзьдзі ў Менску й ейнае ўзнаўленьне ў замежжы.

Пасьля гэтага а. Пятро паясьніў асновы Праваслаўнае Веры, некаторыя царкоўныя правілы й традыцыі, ды адказаў на пытаньні прысутных.

Сход Нью Нью Ёркскага Адьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся ўзноў 11-га сакавіка г. г., як і кожны месяц у парахвіяльнай, ці, калі каму падабаецца называць інакш, у грамадзкай залі нашага Катэдральнага Сабору, г.зн. у залі, што знаходзіцца на першым паверху царкоўнага будынку, а ня недзе "пры" ім, як гэта чамусьці панадзіліся раз за разам пісаць у нашым друку.

Наступнай вялікай ўрачыстасьцяй у грамадзкай залі нашага сабору было адзначэньне 89-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, што сёлета выпала якраз у нядзелю, 25-га сакавіка.

З гэтае нагоды а. Пятро пасьля Сьв. Літургіі адправіў прынагодны малебен, пасьля якога прывітаў маленьнікаў з нацыянальным сьвятам, а хор прапяяў "Дай Божа шмат год!" Беларускаму народу й Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Сьледам за гэтым а. Пятро асьвяціў ахвяраваныя нашай царкве сп-вам Лінай і Мікалаям Сагановічамі белы й чорны камплекты сьвятарскага багаслужбовага адзеньня й пашыты спадарыняй прыслужніцкі сьціхар.

Дзякуючы сп-ву Сагановічам за шчодры дар а, Пятро скончыў ягоныя словы падтрыманым хорам пажаданьнем ім "Дай Божа шмат год!".

У другой палове дня Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне з нагоды нацыянальнага сьвята зладзіла ў грамадзкай залі ўрачысты сход і банкет, якія сьпевамі й музыкай упрыгожыла аркестра сям'і Казакоў, а шчодра насыцілі прысутных смачнымі стравамі нашыя жанчыны, аб чым дакладней можна даведацца з газэты "Беларус".

Да гэтага сп-ва Юля Шатэрнік і Алесь Вінакураў зрабілі ў гэты самы дзень у залі яшчэ й выставу абразоў 6-цёх беларускіх мастакоў, у тым ліку й самое сп-ні Юлі, ды ейнага бацька сп. Алеся Шатэрніка.

Усе выстаўленыя абразы падараваныя мастакамі ў фонд Беларускага Музэю дзеля далейшых выставаў у ЗША.

Што да самое добра зарганізаванае й удалае ўрачыстасьці шкада толькі, што ейны пачатак быў абвешчаны 2½ гадзіны пасьля Божае службы й частка маленьнікаў, зґалодаўшыся ды ня маючы чым зайняцца падчас доўгага

# З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

перапынку падалася дадому, а іншыя, што хацелі пабыць на сьвяткаваньні, ня былі на адправе й малебне за Беларускі народ і Беларускую Народную Рэспубліку.

Таксама шкада, што галоўныя прамоўцы адзначаючы ў іхных прынагодных словах вагу мовы й школы, ды іншых дзейнікаў ў абароне йснаваньня Беларускага Народу, забыліся адзначыць патрэбу ў гэтай справе нацыянальнае Праваслаўнае Царквы.

Тут, перад пераходам да агляду іншае часткі парахвіяльнае дзейнасьці нельга, аднак не падзякаваць за іхную цярплівую працу сяброўкам нашага Сястрынства, што на ўсе вышэй успомненыя застольлі гатавалі любівыя на наш смак стравы й шчодрай мерай частавалі гэтымі прысмакамі удзельнікаў бяседаў - шчырае Вам дзякуй сп-ні Ліна Сагановіч, Тацьцяна Красоўская, Ганна Войтэнка, Тамара Капытка, Сьвятлана Пятровіч і Ніна Цяліца.

Не адныя жанчыны, аднак, працавалі на дабро нашае царквы - мужчынская частка парахвіі таксама што-сыбо-



Электрыкі за працай у падмосьці, зьлева направа: сп.сп. Анатоль Тальянскі й Віктар Дудараў.

ты, у большым, ці меншым ліку, далей налегліва займалася нялёгкай працай аднаўленьня будынку.

Паколькі ў залі ўсё, што можна было зрабіць сваймі рукамі, за выйняткам аздобнага абрамаваньня вокнаў і ўпрыгожаньня сцэны, што робіць сп. Расьціслаў Гарошка, ужо скончанае, ды ў сенях сьцены йз столяй выгладжаныя й памалёваныя, нашыя дабраахвотныя работнікі ўзяліся за наступнае вялікае заданьне - ачышчэньне ад завалі й лішняе зямлі падмосьця, заліцьцё там бэтонам падлогі, ды нават пабудова памешканьняў пад эміграцыйны архіў, або малы беларускі музэй.

Дзякуючы іхнаму ўдзелу ў штосыботняй талацэ падмосьце ўжо ачышчанае ад непатрэбшчыны ды ў большай ягонай часткі залітая бэтонавая падлога, а з аднаго боку сп. Анатоль Колбун пачаў ужо стаўляць сьценныя рамы й абіваць іх абсьценавымі лістамі.

Трэба заўважыць, што электрычныя лініі там правялі й зрабілі неабходныя ўладжаньні нашыя прафэсыйныя электрыкі: сп.сп. Анатоль Тальянскі й Віктар Дудараў.

У штосыботняй талацэ для адновы будынку, апрача вышэй у артыкуле ўспомненых парахвіянаў, працавалі яшчэ наступныя спадары: Віталь Пузач, Васіль Кузь-



Талака ў падмосьці, зьлева направа; сп-ры й сп-ні: Віталь Пузач, Алесь Вінакураў, Юля Шатэрнік, Анатоль Колбун, Алег Кавалёнак, Анатоль Тальянскі, Тацьцяна Красоўская, Васіль Кузьменка, Ліна й Мікалай Сагановічы.

менка, Мікалай Сагановіч, Сяргей Капытка, Андрэй Падлескі, Валеры Гойдзь з работнікамі ягонае фірмы, Мікалай Цімашэнка, Андрэй Чыж, Зьміцер Моўчан, Алесь Вінакураў, Рыгор Арашкевіч, Яўген Унук, Зьміцер Пракапенка, Алег Кавалёнак, Уладзімір Бортнік, А. Будыкін, Влад Маруэлло, Віталь Зайка, Марат Клакоцкі ды часам моладзь зь іншых штатаў - усім ім таксама найшчырэйшая падзяка.

Разам з гэтым узноў-жа нельга ня ўспомніць удзелу ў талацэ сяброўак нашага Сясстрынства й не падзякаваць ім за тое, што кожны раз кармілі работнікаў сытнымі полуднямі, а заслуга ў гэтым сп-няў Ліны Сагпновіч, Тацьцяны Красоўскай, Ірыны Караленка, Сьвятланы Пятровіч і Ірыны Качаноўскай.

Пабудовай грамадзкіх памешканьняў у падмосьці з калідорам і сходамі да іх, ды перабудовай жаночага туалету на 1-шым паверху ня скончыцца, аднак, аднаўлень-

*(Заканчэньне на 8-й бач.)*



Талака ў падмосьці, зьлева направа: сп.сп. Віктар Дудараў, Алег Кавалёнак, Уладзімір Бортнік, Рыгор Арашкевіч, Віталь Пузач і Васіль Кузьменка.

# ІЗ ЗДЫМКАВАГА АРХІВУ



## ХІРАТОНІЯ ЎЛАДЫКІ ВАСІЛЯ

Усьвячэньне архімандрыта Васіля (у сьвеце Уладзімера Тамашчыка) ў япіскапскую годнасьць адбылося ў днях 18-19 сьнежня 1949-га году ў царкве беларускага лягеру для ваенных уцекачоў у Розэнгайме (Баварыя, Нямеччына).

Усьвячэньне (хіратонію) выканалі Іх Міласьці Першагерарх БАПЦ архіяпіскап Сяргей і япіскапы УАПЦ Платон ды Вячаслаў.

Суслужылі з уладыкамі ад БАПЦ а.а. Сьцяпан Войтэнка й Хведар Данілюк, а таксама 4 сьвятары УАПЦ з дыяканамі й адзін грузінскі сьвятар.

На здымку за дыяканам а. Сьцяпан Войтэнка, архімандрыт Васіль, а. Хведар Данілюк, далей за імі архіяпіскап Сяргей.

## ХІРАТОНІЯ ЎЛАДЫКІ АНДРЭЯ

Усьвячэньне ўладыкі Андрэя (у сьвеце Аляксандра Крыта) адбылося 15-га лютага 1968-га году у грэцкім Саборы Сьв. Архістратэга Міхаіла у Адэляйдзе (Аўстралія).

Усьвячэньне (хіратонію) выканалі Іх Міласьці Першагерарх БАПЦ архіяпіскап Сяргей і япіскап Сэрбскае Праваслаўнае Царквы Зьмітра йзь сьвятарамі БАПЦ мітр. прат. Міхаілам Шчурком і прат. Аляксандрам Кулакоўскім, ды духавенствам з сэрбскае, украінскае й грэцкае царкваў.

Пасьля сьмерці япіскапа Васіля й архіяпіскапа Сяргея ўладыка Андрэй на Саборы БАПЦ ў Гайлэнд Парку, у канцы травеня 1972-га году быў абраны на мітрапаліта БАПЦ.





## ХІРАТОНІЯ ЎЛАДЫКІ ІЗЯСЛАВА

Усьвячэньне Уладыкі Ізяслава (у сьвеце Івана Бруцкага) ў япіскапскую годнасьць адбылося ў украінскай царкве-помніку Сьв. Апостала Андрэя Першапакліканага ў Саўт Баўнд Бруку, Н.Дж. ЗША, дзе ён скончыў духоўную сэмінарыю.

Хіратонію выканалі Іх Міласьці Першагерарх УАПЦ Мітрапаліт Мсьціслаў (пазьней І-шы Кіяўскі Патрыярх УПЦ), Першагерарх БАПЦ Мітрапаліт Андрэй ды архіяпіскап УАПЦ Арэст, з удзелам у адправе а. пpрсб. Васіля Кендыша з БАПЦ.

Пасьля сьмерці Я.М. Мітрапаліта Андрэя ў 1983-м г. Уладыка Ізяслаў ў канцы травеня 1984-га году на Саборы БАПЦ у Манчэстары (Англія) быў абраны на наступнага мітрапаліта БАПЦ.

# БОЖЫЯ СЛУЖБЫ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

У папярэднім нумары "Навінаў з Роднае Сьвятыні", апісваючы галоўную Божую службу Праваслаўнае Царквы - Сьвятую Літургію, мы дайшлі да прачытаньня г.зв. Апостала, ці дакладней кажучы, у залежнасьці ад гадавога парадку адправаў, частак Апостальскіх Дзеяў, або лістоў Апостала Паўла да вернікаў у розных местах, ці краінах.

Тут трэба дадаць, што пасьля пачынку *(ц-сл. прокимен)* і агалошаньня чытачом крыніцы чытанага ў гэты дзень Апостала, сьвятар заклікае вернікаў прыслухоўвацца выгаласам "Цікуйма", а не "Уважайма", як гэта ў нас павялося.

Пасля прачытаньня Апостала, сьвятар кажа чытачу "Мір табе", на што той адказвае "І Твайму духу" ды вымавіўшы тройчы "Алілуя", чытае тры сказы з псальмаў, пасьля кожнага зь якіх хор сьпявае тройчы "Алілуя".

Усьлед за гэтым сьвятар, ціха змовіўшы пераддабравесьцьную малітву, выгалошвае "Наймудрасьць, станьце годна, паслухаем Сьвятое Дабравесьце. Мір усім", на што хор адказвае " І Твайму духу".

Тады сьвятар, узяўшы кнігу Сьв. Дабравесься з пасаду, выносіць яе праз райскія дзьверы з алтара й кладзе на пастаўленым прыслужнікам на прымосьці перад іканастасам стальцы ды, адчыніўшы на вызначанай на дадзены дзень бачыне, уголас абвяшчае "Паводле (Мацея, Марка, Лукаша, або Яна) Сьвятога Дабравесьця чытаньне", у адказ на што хор сьпявае "Слава Табе Гаспадару (Госпаду), слава Табе".

Пасьля гэтага сьвятар, папярэджвае людзей словам "Цікуйма" і чытае адну, ці, калі падвойнае сьвята, дзьве прызначаныя на той дзень часткі Сьв. Дабравесьця.

Скончыўшы чытаньне, сьвятар зачыняе кнігу Сьв. Дабравесьця й зрабіўшы ёю знак крыжа ў бок маленьнікаў, заносіць назад на Сьв. Пасад пасад у алтар.

Хор у гэтым часе пяе "Слава Табе Гаспадару (Госпаду), слава Табе".

Сьледам за гэтым сьвятар звычайна робіць тлумачэньне прачытáнае часткі Дабравесьця, або інакш кажучы гаворыць казáнь *(ц.-сл. проповедь)*.

Пасьля казані сьвятар, зачыніўшы райскія дзьверы, пачынае выгалошваць узмоцненае ўпрашаньне *(ц.-сл. сугубая ектенія)*, у якім заклікае вернікаў памаліцца за духоўныя й дзяржаўныя ўлады, духавенства, будаўнікоў і дабрадзеяў сьвятыні, дзе йдзе адправа, за здароўе й дабрабыт сваякоў маленьнікаў, якіх тыя жадаюць у той дзень успомніць ды за ўсіх прысутных на адправе.

Хор падчас гэтага ўпрашаньня адказвае на выгаласы патройным "Зьмілуй, Гаспадару (Госпаду)" і пасьля канцавога сьвятаровага выгаласу словам "Амінь".

У дні беларускіх нацыянальных сьвятаў, ці, калі гэтак пастаноўлена ў парахвіі, пасьля ўзмоцненага ўпрашаньня, сьвятар, адчыніўшы райскія дзьверы, мовіць малітву за Беларускі народ, на пачатку якое маленьнікі павінны ўстаць, або стаць на калені.

Калі-ж малітва за Беларускі народ ня мовіцца, сьвятар усяроўна адчыняе райскія дзьверы й пачынае выгалошваць засупакойнае ўпрашаньне *(ц.сл. заупокойная ектенія)*, у якім успамінаюцца памерлыя й выказваюцца прасьбы да Бога даравадь ім знарочныя і незнарочныя грахі, ды прыйняць іх у небавае гааспадарства.

Хор падчас гэтага ўпрашаньня сьпявае спачатку патройнае "Зьмілуй, Гаспадару (Госпаду)", а ў канцы "Зволь даць, Гаспадару (Госпаду)" й "Зьмілуй, Гаспадару (Госпаду)" ды "Амінь".

Усьлед за гэтым ідзе ўпрашаньне за настаўляных *(ц.-сл. ектенія об оглашенных,* або *наставляемых)*, г.зн. за тых, што на заранньні хрысьціянства пазнавалі асновы веры й гэткім чынам рыхтаваліся да хросту, або ўжо ахрысьціўшыся правінаваціліся й адбывалі царкоўныя пакараньні.

У некаторых цэрквах, ці некаторыя сьвятары, з увагі, што ў цяперашнюю пару адкрыта настаўляных няма, гэтае ўпрашаньне прапускаюць.

Калі-ж яно, аднак, не прапускаецца, дык падчас яго, апрача малітоўных выгаласаў за настаўляных, сьвятар паціху змаўляе малітву за іх і ў канцы голасна заклікае "Усе настаўляныя, адыйдзеце, настаўляныя адыйдзеце, усе настаўляныя адыйдзеце, каб ня было нікога з настаўляных, а засталіся адны верныя" ды пачынае Сьв. Літургію верных кароткім упрашаньнем выгалошваючы "Усе верныя яшчэ й яшчэ Гаспадара (Госпада) ўпрашайма".

Хор, як і падчас іншых упрашаньняў на ўсе выгаласы адказвае "Зьмілуй, Гаспадару (Госпаду)", а сьвятар тымчасам паціху змаўляе першую малітву за верных ды кончыць упрашаньне выгаласам "Бо Табе, Айцу, і Сыну, ды Сьвятому Духу, належыць уся чыста слава цяпер і ўпрыйсьць, ды на ўвесь час", на які хор адказвае "Амінь".

За першым упрашаньнем за верных ідзе другое кароткае ўпрашаньне за верных, падчас якога сьвятар паціху змаўляе другую малітву за верных ды, разгортваючы на Сьв. Пасадзе антымінс, кончыць упрашаньне выгаласам "Каб заўсёды пад Тваёй уладай ахоўваныя, мы Табе славу узсылалі, Айцу, і Сыну, ды Сьвятому Духу, цяпер і ўпрыйсьць, ды на ўвесь час", на які хор адказвае падвойным "Амінь" і пачынае пяяць хэрубімскую песьню "Дзівам хэрубімаў гэтта ўвасабляючы, ды жыцьцё што творыць Тройству тройчсьвятую песьню пяючы, нашыя ўсе мы пражытныя турботы адкладзема цяпер".

Тымчасам сьвятар таксама паціху змаўляе хэрубімскую песьню й акурвае кадзілам Сьв. Пасад, іканастас і маленьнікаў, ды, калі гэта нядзеля, ціха змаўляе яшчэ малітву Уваскросься й 51-шы псальм.

Скончыўшы акурваньне кадзілам сьвятар цалуе Сьв. Пасад ды праз райскія дзьверы зьлёгка кланяецца маленьнікам ды йдзе да дарынца, перад якім кажа "Уздымеце вашыя рукі ў сьвятыні й хвалеце Гаспадара (Госпада)" ды, паклаўшы вялікі покрыў на плячук, бярэ ў левую руку накрыты малым покрывам падстаў, а ў правую таксама накрытую чару й, папярэджаны прыслужнікам (-мі) з падсьвечнікамі выходзіць праз паўночныя дзьверы ў іканастасе на прымосьце *(ц.-сл. солея)* перад райскімі дзьвярыма й стаўшы тварам да маленьнікаў выгалошвае прасьбы, каб Бог успомніў у Ягоным Гаспадарстве духоўныя й дзяржаўныя ўлады, дабрадзеяў сьвятыні, прысутных маленьнікаў і пад., ды павярнуўшыся ў алтар ставіць чару й падстаў на Сьв. Пасад. *(Працяг будзе).*

## ПАДЗЯКА ЗА АТРЫМАНЫЯ АХВЯРЫ НА АДНАЎЛЕНЬНЕ БУДЫНКУ

Парахвіяльная Рада шчыра дзякуе за шчодрыя ахвяры на аднаўленьне будынку наступным асобам:

| | |
|---|---|
| Войтэнка Ганна | $ 200.00 |
| Гарошка Расьціслаў | 1,500.00 |
| Гойдзь Валеры | 500.00 |
| Данілюк Барыс і Марыя | 250.00 |
| Ланцман Хрысьціна | 100.00 |
| Колбун Анатоль | 175.00 |
| Романо-Орса Ала | 2,000.00 |
| Сагановіч Ліна | 500.00 |
| Сагановіч Мікалай | 1,000.00 |

Няхай Міласьцівы Бог багата ўзнагародзіць усіх дабрадзеяў нашае парахвіі за шчодрасьць, а іхная ахвярнасьць няхай стане прыкладам тым, што яшчэ не парупеліся падтрымаць Божую й нацыянальную справу!

## З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

*(Заканчэньне зь 5-е бач.)*

не нашага, адзінага на ўвесь Нью Ёрк і ваколіцу царкоўна-грамадзкага будынку - ягоным завяршэньнем будзе аднова ўсярэдзьдзя сьвятыні на другім паверху.

Пачаткам гэтае справы мусіць быць змацаваньне ўжо купленымі сьцяглавымі прутамі сьценаў будынку.

Апрача таго нам трэба падняць хоры, каб пад імі, а не ў самой сьвятыні, было мейсца на продаж іконаў, сьвечак, царкоўных выданьняў і пад.

Урэшце трэба яшчэ ўставіць адно бакавое й тры франтавыя вокны, услаць новую падлогу, пабудаваць па абодвых баках перад іканастасам ківоты зь іконамі, зрабіць аздобныя аправы на іконы ў прамежках паміж вокнамі, скончыць упрыгожаньне іканастасу й памаляваць сьцены.

Заданьне, на першы пагляд можа здацца, завялікае на нашыя сілы, але, калі ўспомнім, колькі ўжо зроблена таго, магчымасьць чаго нам нядаўна і ня сьнілася - узяўшы хоць-бы ахаладжваньне будынку, дык і тое, што яшчэ засталося зрабіць, з Божай ласкай і дапамогай, ды пры нашай згодзе й ахвярнасьці, становіцца зсім магчымым і асягальным.

Дарагія Парахвіяне й усе Суродзічы Беларусы! Памятуючы, што Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква забароненая на Беларусі не дарма, а таму, што яна духовая й матэрыяльная падмуроўка беларускага вызвольнага руху ў дыяспары, а гэтым самым і пагроза чужой хвальшыва-рэлігійнай падпоры антыбеларускае ўлады, што захапіла нашую Бацькаўшчыну, падтрымоўвайма й умацоўвайма нашую духовую й матэрыяльную цьвярдыню - родную царкву, шчыра й годна малемся ў ёй за наш Край ды Народ, і Бог пачуе нашыя прасьбы!

### ПАВАЖАНЫЯ ПАРАХВІЯНЕ!

Мінуў ужо 2006-ты год, а ня ўсе Вы заплацілі складкі на парахвію.

Будзьце ласкавыя якнайхутчэй выканаць гэты нецяжкі абавязак.

Складкі ў нядзелі прыймаюць сябры Парахвіяльнае Рады, што зьбіраюць ахвяры на адправах, або іх можна паслаць поштай, дадаўшы, калі магчыма, ахвяру на аднаўленьне царквы.

### ПАРАДАК АДПРАВАЎ І ПРЫНАГОДНЫХ ЎРАЧЫСТАСЬЦЯЎ У ВЯЛІКОДНУЮ ПАРУ

**ГОСПАДАВАЕ ЎЕХАНЬНЕ Ў ЯРУЗАЛІМ:**
НЯДЗЕЛЯ, 6-га 1-га КРАСАВІКА 2007-га г. - СЬВ. ЛІТУРГІЯ Й АСЬВЯЧЭНЬНЕ ВЕРБАЎ. ПАЧАТАК А 10.00-й Г. РАНІЦЫ.

**У ЦЯРПЕННЫМ ТЫДНІ:**

**ВЯЛІКІ (ЧЫСТЫ) ЧАЦЬВЕР:**
УСПАМІН ХРЫСТОВЫХ МУКАЎ (12 ЯВАНГЕЛЬЛЯЎ). ПАЧАТАК А 6.00-й Г. В.

**ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА:**
ВЯЧОРНЯ НА ЎСПАМІН ХРЫСТОВЫХ ПАХОВІНАЎ. ПАЧАТАК А 6.00-й Г. ВЕЧ.

**ВЯЛІКАЯ СЫБОТА;**
ПАЎНОЧНІЦА. ПАЧАТАК А 11.30 Г. ВЕЧАРА.

### ХРЫСТОВАЕ ЎСТАНЬНЕ З УМЕРЛЫХ (ВЯЛІКДЗЕНЬ)

НЯДЗЕЛЯ, 8-га КРАСАВІКА 2007-га ГОДУ.
АПОЎНАЧЫ: КРЫЖНЫ ЙСЬЦЕЖ І ЗАРАНЬНЯ ДЫ ЎСЬЛЕД СЬВ. ЛІТУРГІЯ.
ПАСЬЛЯ АДПРАВАЎ АСЬВЯЧЭНЬНЕ ПАСХАЎ У ПАРАХВІЯЛЬНАЙ ЗАЛІ Й
**ПАРАХВІЯЛЬНЫЯ РАЗГОВІНЫ.**
УДЗЕЛ У ПАЧАСТУНКУ ЗА ДАБРААХВОТНУЮ АХВЯРУ.
УВАГА: У НЯДЗЕЛЮ, НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ВЯЛІКАДНЯ СЬВ. ЛІТУРГІІ НЯ БУДЗЕ.

У ТАМАШОВУЮ НЯДЗЕЛЮ, 15-га КРАСАВІКА 2007-га Г.
СЬВ. ЛІТУРГІЯ Й АГУЛЬНАЯ ПАНІХІДА. ПАЧАТАК А 10.00-й Г.Р.

* * *

НЯДЗЕЛЯ, 13-га ТРАВЕНЯ 2007-га Г.

**ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Й МАЦІН ДЗЕНЬ.**

СЬВ. ЛІТУРГІЯ Й МАЛЕБЕН. ПАЧАТАК А 10.00-й Г.Р.
ПАСЬЛЯ СЬВ. ЛІТУРГІІ СЬВЯТОЧНЫ ПАЧАСТУНАК І ГУЛЯНЬНЕ. УДЗЕЛ $ 20.00.



У НАШАЙ ЦАРКВЕ МОЖНА НАБЫЦЬ ІКОНЫ Ў ПРЫГОЖЫХ РАМАХ, ЗАЛАТЫЯ й СЕРАБРАНЫЯ СЬВ. ЕЎФРАСІНЯЎСКІЯ НАГРУДНЫЯ КРЫЖЫКІ, МЭДАЛЬЁНЫ З "ПАГОНЯЙ" ДЫ ІНШЫЯ ЗАЛАТАРСКІЯ АЗДОБЫ й ВЫРАБЫ. У ГЭТАЙ СПРАВЕ ЗЬВЯРТАЙЦЕСЯ ДА СКАРБНІКА ПАРАХВ. РАДЫ СП. МІКОЛЫ САГАНОВІЧА.

КАРЫСТАЙЦЕСЯ АДНОЎЛЕНАЙ ДЫ АХАЛОДЖВАНАЙ УЛЕТКУ ПАРАХВІЯЛЬНАЙ ЗАЛЯЙ З КУХНЯЙ НА СЯМЕЙНЫЯ Й ГРАМАДЗКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ, СХОДЫ ДЫ ПАСЕДЖАНЬНІ!
ДАМАЎЛЯЦЦА Ў ГЭТАЙ СПРАВЕ МОЖНА ПА ТЭЛЕФОНЕ: 718 237 1600, або 732 868 1589.

НАВЕДВАЙЦЕ СЕЦІЎНУЮ ДЗЯЛЯНКУ БАПЦ .
www.belaoc.org
ЦІ АДГУКАЙЦЕСЯ ЭЛЕКТРОННАЙ ПОШТАЙ
belautoc@yahoo.com